


ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 16 (44) 26 траўня—1 чэрвеня 1993 г. Цана 3 рублі

## ЭКСКУРСІЯ, ВЫСТАВА Й НАРАДА

**На мінулым тыдні ў Віцебску завяршылася двухдзённая навуковая канферэнцыя «Язэп Драздовіч. Асоба. Творчасць». Зарганізавалі яе Беларускі інстытут праблемаў культуры, Віцебскі абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці (АНМЦНТ) пры фінансавай дапамозе міністэрства культуры, фірмы «Dainova» і маладзёжнага цэнтра «Ілва».**

Прымеркаваная да 105-й гадавіны з дня нараджэння Мастака, канферэнцыя ўключыла ў сябе шэраг імпрэз, якія з пэўнай долей умоўнасці можна разглядаць і як аўтаномныя мерапрыемствы.

20 ліпеня частка ўдзельнікаў канферэнцыі адправілася з Менску маршрутам ушанавання памяці Я. Драздовіча. Экскурсанты наведалі мясціны, дзе жыў ды працаваў творца, пабачылі музейныя экспазіцыі, прысвечаныя ягонаму жыццёваму шляху, усклалі кветкі на магілу Мастака ў заходняй частцы Віцебшчыны.

У гэты ж дзень у АНМЦНТ адчынілася выстава «Лятуценні Язэпа Драздовіча». Яна прадстаўляе гледачу шматгранную творчую спадчыну Майстра.

Не даючы з-за недахопу мейсца грунтоўную ацэнку экспазіцыі, пералічу толькі нямногае з таго, што можна ўбачыць на выстаўцы: карціны, разьба па дрэве, дываны, копіі літаратурных і навуковых твораў Драздовіча...

Наступны дзень быў днём уласна навуковае нарады. У ёй удзельнічалі даследчыкі жыцця і духоўнай спадчыны Мастака са сталіцы, Віцебска, Навагрудка, іншых мясцін.

Глыбіню даследчыцкага пранікнення ў духоўна-мастацкае жыццё Я. Драздовіча, багацце новых ідэй, што выпрацавала канферэнцыя, можа, маркую, добра праілюстраваць нават сухі пералік некаторых тэмаў, што гучалі ў дакладах і спавешчаннях: роля Драздовіча ў станаўленні беларускай мастацкай школы (В. Шматаў), стылістыка мадэрна і сімвалізму ў ягонай творчасці (Ф. Шунейка), літаратурная спадчына Драздовіча 20—30-х гадоў (М. Райчонак), яго космас, сны і явы (Г. Каржанеўская).

**Н. ПРЫСУТНЫ.**


Я. ДРАЗДОВІЧ. «Песня Баяна».

Фотаздымкі І. Сушчэўскага.

Я. ДРАЗДОВІЧ. «Усяслаў Полацкі ў порубе».




Я. ДРАЗДОВІЧ. Дыван.

## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:



*Навіны Беласточчыны і...*

## І ўсё ў адной асобе

29 траўня спаўняецца 60 гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка, краязнаўцы, даследчыка фальклора Мікалая Гайдука.

М. Гайдук—адзін з папулярных беларускіх аўтараў Беластоцкага краю. Пачаў друкавацца на хвалі адраджэння культурнага жыцця беларусаў Польшчы ў канцы 50-ых гадоў. З гэтага часу ён вядомы як паэт, але плённа працуе і ў жанры апавядання.

Сярод творчых прац Мікалая Раманавіча Гайдука нотныя запісы беларускіх песень, зборнік казак, краязнаўчы слоўнік. Ён таксама вывучае беларуска-польскія культурныя сувязі.

*...Віцебшчыны*

## Лепшы падарунак—кніга

Прэзент да юбілею беластоцкага пісьменніка, краязнаўца, фальклярыста Мікалая Гайдука зрабіла беларускае выдавецтва «Юнацтва». Яно выпусціла «Паратунак»—кнігу гістарычных эсэ Гайдука. Ксёнжка прапануе займальнае падарожжа ў мінуўшчыну заходніх абшараў Беларусі.

Выданне ўжо трапіла ў віцебскія кнігарні. І хутка зьнікае як, дарэчы, і ўсе цікавыя творы па гісторыі Бацькаўшчыны.

**Ю.С.**

*Рэзананс*

## Так, яны прагаласавалі за цынкавыя труны

Мы атрымалі ліст жыхароў Глыбоччыны А. Пятроўскага, Р. Губскага і інш. (усяго 5 подпісаў). Яны выказваюць вострую крытыку ў адносінах дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія падтрымалі ідэю мілітарысцкага саюза Беларусі з краінамі СНД.

«Мы ўпэўнены,—пішуць аўтары ліста,—што хутка па гэтаму пытанню пройдзе рэферэндум і людзі скажуць сваё «не» ваеннаму саюзу, бо нам не трэба ні з кім ваяваць». Згаданыя дэпутаты мусяць добраахвотна датэрмінова пайсці ў адстаўку, бо яны канчаткова згубілі пачуццё адказнасці і страцілі давер выбаршчыкаў.

«Наш парламент,—працягваюць нашыя чытачы,—павінен складацца з прафесійных прыстойных адукаваных дэпутатаў», якія будуць здольныя заслужыць падтрымку й давер народа, вывесці Беларускі край з хаосу і нястачы.

**Наш кар.**

## Разам супраць загубы

Шэраг маладзёжных арганізацый Беларусі, у тым ліку Задзіночанне Беларускіх Студэнтаў, «Выбранецкія шыхты», Задзіночанне Беларускай Каталіцкай Моладзі, выступілі з заявою, у якой перасцерагаецца Вярхоўны Савет ад вынясення на маркуемы рэферэндум пытання аб дзяржаўнай мове.

Маладзёжныя арганізацыі таксама запланавалі на канец траўня шматдзённае пікетаванне сесіі парламента. Мэта гэтай акцыі, якая, дарэчы, падтрымана БНФ, НДПБ, БСДГ,—недапушчэнне вынясення пытання аб дзяржаўнай мове на рэферэндум.

Тыя, хто жадае прыняць удзел у пікетаванні, атрымаць аб ім інфармацыю, могуць звяртацца на адрас: 220013, Менск, вул. Я. Колса, д. 47, к. 1, кв. 38, ЗБС або званіць па тэлефоне ў Менску **31-90-98** (Аляксей Глушко).

**М. Каліноўскі.**

# ЦІ АДБУДЗЕЦЦА «НЮРНБЕРГ-2»?

Паважаная рэдакцыя!

Я вельмі ўдзячны вам за газету «Выбар», якую рэгулярна атрымліваю. Акрамя мяне, яе маюць магчымасьць чытаць таксама члены Нацыянальна-дэмакратычнае партыі Беларусі. Нам падабаецца яе шчыры, дэмакратычны падыход да праблем сучаснасьці. Такіх газет на Беларусі амаль няма. Дзякуй вялікі вам за тое, што вы, нягледзячы на цяжкасьці і перашкоды, якія стаялі на вашым шляху, вытрывалі і сталі яшчэ лепш!

Я меў шчасьце надрукаваць у вас артыкулы і прапаную вам яшчэ адзін.

З павагай і найлепшымі пажаданьнямі

**Старшыня Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Анатоль АСТАПЕНКА.**

Апошнім часам амаль адначасова адбылося некалькі падзей, якія так ці інакш зьвязаны з дзейнасьцю «нашай роднай» КПСС.

Па-першае, у г. Уладзіміру 24—31 студзеня 1993 г. праходзіла міжнародная канферэнцыя пад назвай «Нюрнберг-2». Мэта канферэнцыі—утварэньне Міжнароднага аргкамітэту (МАК) дзеля правядзеньня Міжнароднага Суду над камуністычнай ідэалогіяй, якая прапагандуе класавую нянавісьць і культ гвалту; над камуністычнай сістэмай, якая заняволіла народы і прывяла да генацыду многіх зь іх; над КПСС і камуністычнай наменклатурай.

«Нюрнберг-2»—гэта першая канферэнцыя пасьля 2-й сусветнай вайны, прысьвечаная падрыхтоўцы суду над камунізмам (нагадаю Нюрнбергскі суд над фашызмам). Неабходнасьць такой канферэнцыі даўно высьпела і невыпадкова яна праводзілася з удзелам дзяржаў СНД, Прыбалтыкі і Усходняй Еўропы—дзяржаў, якія найбольш пацярпелі ад камунізму.

Ініцыятыва правядзеньня канферэнцыі йшла ад Выканкама Арганізацыі правоў чалавека ў СНД разам з Расейскім Устаноўчым Саюзам (РУС). Таму, зразумела, найбольш было расіян (41 чал.). Польшчу прадстаўляў—1, Летуву—1, Беларусь—2, Эстонію—1, Румынію—1, Украіну—5.

Нягледзячы, на колькасную перавагу расейцаў, галасаваньне было вельмі бурным і часта вынікі былі на карысць гасьцей, бо лічыўся толькі адзін голас ад дзяржавы.

У сваім уступным слове, старшыня ініцыятыўнай групы сп. Лістоў сказаў, што сьпешка ў правядзеньні канферэнцыі абумоўлена пагрозай адраджэньня камуністычных арганізацый. Дзеля правядзеньня будучага суду над КПСС, камуністычнай ідэалогіяй і камуністычнай сістэмай «мы павінны стварыць у першую чаргу ГАСПАДАРЧЫ орган»,—падкрэсьліў ён.

Трэба было разгледзець два прапанаваных аргкамітэтам падыходы да будучага суду. Першы—зьвярнуцца да ўрадаў пацярпелых краін і на дзяржаўным узроўні правесьці будучы суд. Але існуе вельмі просты аргумент супраць гэтага варыянту: а ці згодзяцца былыя партапаратчыкі—Ельцыны, Краўчукі, Бразаўскасы і г. д. капаць пад сабой яму? Пэўна ж не.

Другі падыход—МАК зьбірае з аўтарытэтных асобаў Міжнародны грамадскі Суд (МГС) з дыслакацыяй у Нюрнбергу і дабіваецца яго прызнаньня ААН, іншымі міжнароднымі арганізацыямі, грамадзкасьцю і ўрадамі дзяржаў. Гэты Суд кваліфікавана, згодна з міжнародным правам, Канстытуцыямі адпаведных краін разглядвае злачынствы КПСС. Тыя матэрыялы МГС, па якіх патрабуюцца юрыдычныя санкцыі, павінны быць перададзеныя Вярхоўным Судам дзяржаў і Міжнароднаму Суду ў Гаазе, ААН дзеля прыняцьця мер.

У спрэчках па гэтых пытаньнях канструктыўна выступіў прадстаўнік РУСа юрыст, маёр юстыцыі ў адстаўцы сп. Новікаў. Ён прапанаваў трэці варыянт, сутнасьць якога ў тым, што, каб арганізаваць Суд над КПСС, неабходна прыняць міжнародны статут, як гэта было ў Нюрнбергу, і прапанаваў зьвярнуцца да дакументаў міжнароднага права. Яшчэ ў 1907 г. у Гаазе была прынятая канвенцыя, якую ратыфікавалі 33 дзяржавы, згодна якой краіны могуць стварыць незалежную камісію, на якую кладзецца аб'ектыўнае вырашэньне гэтых пытаньняў. Далейшы магчымы ход дзеяньняў наступны. Неабодна зьбіраць крымінальныя матэрыялы ў кожнай дзяржаве і ўжо потым выходзіць на міжнародны Суд. Сп. Новікаў выказаўся з недаверам пра магчымасьці грамадзкасьці ў працэсе «Нюрнберг-2».

Сп. Лістоў у сваю чаргу адзначыў, што ўся судовая ўлада знаходзіцца ў руках наменклатуры і таму неабходна, каб была паралельная юрыдычная сістэма, якая закладзена ў другім варыянце.

У выніку абмеркаваньня, большасьць выказалася за сімбіёз другога і трэцяга варыянтаў. Потым было праведзена галасаваньне за стварэньне МАК, дзейнасьць якога будзе накіравана на ажыцьцяўленьне выпрацаваных падыходаў да Суду. Станоўчае рашэньне было прынятае большасцю галасоў.

Такім чынам, галоўны вынік канферэнцыі «Нюрнберг-2»—утварэньне МАК па Суду над камунізмам—стаў фактам гісторыі.

Далей абмеркоўваліся розныя падыходы да будучага Суду. Пасьля працяглага, цягучага, знаёмага мне па «расейскаму духу» выступленьня прадстаўніка Массавета сп. Цітова дысанансам прагучала кароткае і вельмі зьмяшчальнае выступленьне прафесара з Румыніі сп. Перчака. Ён адзначыў, што за камуністычныя злачынствы ў Румыніі нясуць непасрэдную адказнасьць толькі дзьве фігуры—генерал Нікольскі і яшчэ адзін ідэолаг, які ўцёк у Маскву. Неабходна, каб нішто не дыктавалася Масквой—адзначыў Перчак. І галоўнае, трэба судзіць не асобных людзей, а сам камунізм. Але калі судзілі фашызм у Нюрнбергу, за ініцыятарамі стаялі танкі і гарматы, а зараз усё наадварот—за намі дубінкі і для нас жа саміх. Таму нам трэба быць вельмі згуртаванымі.

Я ў сваім дакладзе распавёў пра дзве распрацаваныя Менскім аргкамітэтам Заявы, дзе выказваліся нашыя погляды на гэтую праблему. Першая Заява пад назвай «Мы заклікаем кожнага, каго трывожыць небясьпека нэабальшавізму, далучыцца да нас» была надрукаваная ў газеце «Свабода» (№ 5, 1992 г.) за подпісамі сп.сп. Пазьняка ад апазіцыі БНФ у ВС, Хадыкі (БНФ), Астапенкі (НДПБ), Лугіна (БСП), Сілка (БХДЗ), Мальдзіса (Міжнародная асацыяцыя беларусістаў), Мацьвеенкі (Вольны прафсаюз) і Дабравольскага (АДПБ). Другая Заява, распрацаваная з хрысьціянскіх пазіцый па ініцыятыве сп. Бембеля, пераказвалася ў «Добрым вечары».

Прыемна адзначыць, што прыняты ва Уладзіміры «Зварот» Міжнароднай канферэнцыі «Нюрнберг-2» да народаў, кіраўніцтва міжнародных ворганаў, шмат у чым пераклікаецца з нашым першым Зваротам, у прыватнасьці ў той частцы, якая тычыцца рэестру бальшавіцкіх злачынстваў.

Аднак трэба адзначыць, што падыход, распрацаваны Менскім аргкамітэтам «Нюрнберг-2», які ахоплівае ўсё большае кола праблем, зьвязаных са злачынствамі камунізму, чымсьці той, які прапанаваны ініцыятыўнай групай РУС на чале са сп. Лістовым. Сутнасьць нашага падыходу ў асуджэньні не толькі КПСС (як прапанавана групай Лістова), а ў асуджэньні камунізму ў розных аспектах—гэта і суд над камуністычнай ідэалогіяй, якая грунтуецца на кульце гвалту, суд над злачыннымі арганізацыямі—КПСС, КДБ і г. д. І, нарэшце, суд над арганізатарамі і выканаўцамі камуністычных злачынстваў. Акрамя таго, адметнасьць беларускага Звароту ў тым, што па нашаму меркаваньню «мэта будучага трыбунала—ня помста, ня новыя ахвяры, не каменяваньне грэшнікаў, а падвядзеньне рысы, найперш юрыдычнай, над усімі злачыннымі скрыўленьнямі шляхоў чалавечай гісторыі, без чаго немажліва сапраўднае пакаяньне, трывалая гармонія паміж людзьмі, прыродай і Богам».

Цікавым быў, дарэчы, далейшы шлях Звароту «Мы заклікаем кожнага...». На міжнароднай канферэнцыі «Дэмакратыя і незалежнасьць», якая праходзіла ў Менску 11—13 траўня 1992 г. Зварот быў падтрыманы яе ўдзельнікамі. Пасьля гэтага ў польскай газеце «Solidarność Walcząca» (№ 10—11/92) Зварот быў бяз зьмен перадрукаваны і стаў вядомы польскай грамадзкасьці.

Але і гэта ня ўсё. Поўнай нечаканасьцю быў ліст, атрыманы мною напярэдадні паездкі на канферэнцыю «Нюрнберг-2». Ён прыйшоў з г. Лазана, што ў Швейцарыі, ад міністра і дэлегата ўрада Швейцарыі ад Саюза польскіх арганізацый у Швейцарыі Мар'яна Рэспонд-Главацкага. Высьветлілася, што праз згаданую польскую газету грамадзкасьць Швейцарыі пазнаёмілася з нашым зваротам. Спадар Р.-Главацкі піша, што іх асяродзьдзе атрымала ад артыкула найлепшае ўражаньне. Таму «было вырашана перакласьці яго на нямецкую і французскую мовы (а таксама, магчыма, на італьянскую, гішпанскую і ангельскую) і распаўсюдзіць яго ў заходне-еўрапейскіх сродках масавай інфармацыі, вядома, са спасылкай на Вас».

Далей ён піша, што нельга адразу разлічваць на значны посьпех, аднак прэса, радыё і тэлебачанне, а таксама большасьць паслоў і місій ААН у Жэневе даведаюцца аб «гэтай несправядлівасьці гістарычнай». І далей «...мы павінны ўсе аб'яднацца па ўсім сьвеце, каб гістарычная праўда пра бальшавізм і камунізм стала ўяўнай».

Калі я прыехаў з Уладзіміра, то адбылася яшчэ адна падзея, зьвязаная, праўда, толькі з Беларусьсю—аднаўленьне дзейнасьці КПСС—КПБ.

Мне падаецца ўсё гэта вельмі сімвалічным. Гэта агонія сіл сатанінскага камунізму. У той час, калі ўжо ўтвораны Міжнародны камітэт па Суду над злачынствамі КПСС, адначасова пачаўся шырокі рух у гэтым кірунку на Захадзе, калі кампартыі забаронены амаль ва ўсіх посткамуністычных краінах... Вярхоўны Савет Беларусі прымае станоўчае рашэньне аб дзейнасьці КПБ!

Гэты зьбег падзей, на мой погляд, сымвалізуе канец самага жудаснага з усіх рэжымаў на зямлі—камуністычнга.

**Анатоль АСТАПЕНКА,**
**удзельнік канферэнцыі.**

# НЕКАЛЬКІ ПЫТАННЯЎ ДА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

На мінулай сесіі Вярхоўнага Савета кіруючая кансерватыўная наменклатура, здаецца, сапраўды перайшла мяжу, якая аддзяляе палітычную памылку ад зрады, прыняўшы рашэнне аб уваходзе ў сістэму калектыўнай бяспекі СНД (а на сутнасці, аб ваенным саюзе з Расіяй). Самым цікавым выглядае тое, што на самой сесіі саўмінаўскае лобі спачатку і не надта імкнулася абгрунтаваць гэтую сваю прапанову, спадзеючыся болей на паслухмяную большасць, а самым загадкавым—сапраўдная крыніца, адкуль зыходзіла гэткая ініцыятыва, таксама як і яе сапраўдныя мэты. На жаль, загадка здаецца нераскрытай да гэтай пары.

Шмат ужо пісалася і гаварылася пра выключнае значэнне рэальнай дзяржаўнасці беларускай мовы для стабільнасці Беларускай дзяржавы, якая ўжо некалькі стагоддзяў пастаянна знаходзіцца на скрыжаванні інтарэсаў больш моцных суседзяў. Здзіўляе і выклікае абурэнне эгаізм людзей, якія лічаць сябе дзяржаўнымі дзеячамі, але кожны раз гатовы шантажыраваць сваіх палітычных праціўнікаў, пагражаючы дабіць беларускую мову ўвядзеннем на Беларусі райсейскай мовы ў якасці другой дзяржаўнай.

Няўжо з дзяржаўных вышынь дэпутаты большасці не бачаць, што з увядзеннем расейскай мовы ў якасці дзяржаўнай, Беларусь яшчэ болей наблізіцца да становішча якое займаюць у складзе Расійскай федэрацыі такія рэспублікі, як, напрыклад, Татарстан, ці Башкортастан? Дарэчы, у Расіі нікому нават не прыйшло ў галаву аб'яўляць дзяржаўнымі на ўсёй тэрыторыі краіны татарскую ці башкірскую мовы.

Пасля развалу Савецкага Саюза і крушэння камуністычнай ідэалогіі любое збліжэнне з Расіяй будзе значыць пашырэнне ўплыву новай па сваёй сутнасці дзяржавы, дзе пануючае становішча займае праваслаўе і набірае сілу расейскі шавінізм. Як у гэтых умовах будуць адчуваць сябе на Беларусі каталікі, якія складаюць вялікую частку беларускага народа? Ці не выкліча такое збліжэнне ўзмацнення прапольскіх настрояў у заходніх абласцях Беларусі? Ці не пагражае Беларусі ў гэтым выпадку прыднястроўскі варыянт развіцця падзей? І апошняе пытанне—няўжо ўсё гэта робіцца свядома?

**Віктар СЦЯПАНАЎ,**
**г. Орша.**

# Што купілі?

У лютым рабочым ВА «Даламіт», якім кіруе былы першы сакратар Віцебскага абкама КПБ У. Грыгор'еў, не выдалі аванс. У той жа час прадпрыемства купіла аўтамабіль «Волга» і мікрааўтобус «РАФ», якія пакуль не выкарыстоўваюцца. (Значыць, не было й тэрміновай неабходнасці іх набываць).

У красавіку таксама не было авансу... Але кожнаму зразумела, што працоўны люд жыве з заробку: толькі б дацягнуць ад зарплаты да авансу. Вось і атрымліваецца, што камусьці (рабочаму) трэба падцягнуць рамень, а некаму (кіраўніцтву) у гэты ж час—«Волгі» ды «РАФы».

Цікава, што ж набылі на «Даламіце» на гэты раз?

І куды пойдзе, на якія патрэбы, чарговы шасцімільярдны крэдыт аб'яднанню?

**І. В.**

*Рэзананс*

# АПОШНІЯ ДНІ «ГАСПАДАРА»

Новы дырэктар СШ № 9 Віцебска М. Макрыцкі публічна падзякаваў загадчыцы вучэбнай часткі старэйшых класаў за ўмелую падрыхтоўку і правядзенне педагагічнага савета. Высока ацэньвае прафесійныя якасці Людмілы Уладзіміраўны загадчык Чыгуначнага РАНА М. Скараходаў. Анічога дрэннага ў адрас завуча як спецыяліста не можа сказаць загадчык Віцебскага гарАНА В. Праснякоў. А калі ўзяць адміністратара рангам вышэй, г. зн. загадчыка аблАНА М. Гірсу, то і ён змог бы аднесці Л. Сухарукаву да плеяды вопытных педагогаў.

Але кампліменты кампліментамі, а кіраўніцтва РАНА вырашыла звольніць завуча з 4 траўня бягучага года, а гэта значыць нечакана, не дачакаўшыся завяршэння вучэбнага года. Гэты факт ніяк не растлумачыш удзячнасцю кіраўніцтва за шматгадовую працу і высокае майстэрства настаўніка.

З якой жа нагоды такая няласка?

А можа Людміла Уладзіміраўна наступіла камусьці на адміністрацыйны мазоль?

19 лютага мінулага года наша газета апублікавала артыкул «Директора опровергают ученики». У ім паведамлялася аб парадаксальным выпадку ў педагагічным жыцці. Настаўніца СШ № 9 Т. Ламчаноўская звярнулася ў народны суд з іскам на дырэктара гэтае навучальнае ўстановы Т. Дуліну. Як меркавала заўяніца, кіраўнік прынізіла яе гонар ды годнасць. Нарсуд іск задаволіў. Потым у школу прыйшоў новы дырэктар М. Макрыцкі.

—Я тады маральна падтрымала нашую настаўніцу, якая вымушана была шукаць праўду ў народным судзе,—расказвае Людміла Уладзіміраўна,—мая прынцыповая пазіцыя, думаю, не надта спадабалася Т. Дулінай і М. Скараходаву дый іншым вышэйстаячым начальнікам. Ужо тады з усімі імі мне прыйшлося канфліктаваць, змагацца за зацвярджэнне ў калектыве здаровай атмасферы. Вось зараз і адыграліся, калі прынялі рашэнне звольніць мяне 4 траўня з працы, не даўшы нават удзельнічаць у вясенніх школьных экзаменах. Аб гэтым і папярэдзіла мяне РАНА паперкай...

Важна любыя супярэчнасці суадносіць з патрэбамі часу. Леташні судовы разбор і ў выніку паражэнне дырэктара Дулінай—прыклад каларытны. Ды няўжо раней, у былыя часы дыктату «ума, чести и совести» такое здарылася б? Пра судовы іск супраць начальніка ды да таго ж па «нязначнай» прычыне (абарона гонару й годнасці падначаленага) не магло быць і мовы. Бунты супраць наменклатуршчыкаў і тым болей іх вырашэнне ў народным судзе былі недазволенымі.

Дадумалася пярэчыць дырэктару нейкая настаўніца! Гэтае ж было найперш паўстаннем не procіў школьнага тырана, а супраць райкама ці гаркама партыі, што зацвярджалі адміністратара на пасадзе.

Настаўніца перамагла. Несумненна, дапамагла перамозе праўды і завуч Л. Сухарукава. Гэты выпадак нельга разглядаць сам па сабе. Дэмакратыя ў нашым грамадстве замацоўваецца, нягледзячы на нападкі і падвыванне з падваротняў.

Пацвярджэннем гэтаму самы свежы факт. Прафсаюзны камітэт школы аднадушна выступіў супраць рашэння РАНА звольніць Л. Сухарукаву. Атрымліваецца, што зараз настаўнікі пайшлі не «тыя». Цяперашнім педагогам пры іхняй яшчэ масавай пасіўнасці палец у рот ужо не пакладзеш. Асабліва ажываюць духам маладыя настаўнікі пры падтрымцы такіх бескампрамісных, не пагаслых сэрцам у шматгадовых фальшы і безабліччнасці савецкай школы, як Л. Сухарукава. А хто насаджаў гэтыя фальш і безабліччнасць?

Пагаварыце з думаючымі настаўнікамі. З кожным новым днём для іх усё недарэчней і ганебней становіцца само існаванне раённых, гарадскіх і абласных аддзелаў народнай адукацыі, а калі ўжо быць і паслядоўнымі да канца, то і саміх Саветаў народных дэпутатаў, іх выканкамаў.

Як эканоміка, так і культура, і сярэдняя школа ўздоўж і ўпоперак перавязана путамі. Чыноўнікі ад народнай адукацыі, зразумела, аніякай ролі ў паляпшэнні навучання й выхавання дзяцей не адыгрываюць, затое спраўна атрымліваюць зарплату, пішуць паперы, водзяць рукамі, карацей, мітусяцца, перашкаджаюць, цяжкім грузам вісяць на школе. Абсалютную непатрэбнасць і недарэчнасць гэтых «апекуноў» я асабліва адчуў 5 траўня, калі прыйшоў у школу на нараду. Тут павінна была адбыцца сустрэча нязгоднага з рашэннем аб звальненні Л. Сухарукавай прафкама СШ з вышэйстаячымі кіраўнікамі.

А тытулаваных гасцей з'явілася нямала: загадчыкі РАНА і гарАНА, два інспектары аблАНА, старшыня райкама прафсаюза работнікаў асветы. Дзеля чаго выкінуты быў з адміністрацыйных нябёсаў такі дэсант?

Толькі не дзеля справы. Любая сітуацыя маштаба школы павінна вырашацца толькі ў ёй. А школе паранейшаму не даюць самастойнасці.

З года ў год мы ўсяляк балбочам на ўсіх узроўнях грамадства пра рэформу народнай адукацыі. І не надалі ёй цывілізаваны прававы статус. Вот пагэтаму сярэдняя школа ўсё яшчэ пад пятою чыноўніцтва.

Нядаўна ў асабістай гутарцы са мной М. Скараходаў—ініцыятар рашэння аб звальненні Л. Сухарукавай—пераконваў, што перабудоўвае стыль і метады працы РАНА... пад дэвізам «Прыйшоў, убачыў, дапамог» (!). Чым ні лозунг юнага ленінца?

Самы надзейны і эфектыўны спосаб дапамагчы народнай адукацыі—ліквідаваць гарадскія, раённыя і абласныя аддзелы як рэшткі адміністрацыйна-каманднай бюракратычнай сістэмы. Ды й слова «народная» тут недарэчы. Яно з тых часоў, калі пачынала сваю згубную дзейнасць рабоча-сялянская ўлада, дыскрэдытаванае. Ад імя народа яна і зацвердзіла ў адукацыі сістэму аднадушнага паслушэнства таталітарызму. Апошні быццам бы зруйнаваны, але гэта ўяўнае знішчэнне. Іначай з якой нагоды ў СШ № 9 найшло столькі начальнікаў 5 траўня?

Не ведаю, пра што думалі ў гэтыя мінуты члены прафкама, разглядваючы ў сценах сваёй школы такое шырокае прадстаўніцтва ўладаў. Ва ўсялякім выпадку яны не спужаліся гэтага нашэсця. Не тыя часы.

А мне так да канца й не зразумелыя матывы з'яўлення наменклатурнага дэсанта. Што іх яднала ў гэты момант? Няўжо лёс Л. Сухарукавай? А можа, агульны страх за мажлівыя непрыемнасці па службе? Бо Людміла Уладзіміраўна звярнулася ў Вярхоўны Савет з заявай, у якой недвухсэнсоўна назвала прычыну рашэння РАНА аб яе звальненні: пераслед за дэмакратычныя погляды. І ў парламенце не пакінулі гэтую заяву без увагі. Кантрольная палата ВС краіны таксама зацікавілася ёю.

Я думаю пра страх чыноўнікаў не без падставы. Інакш чаму такой непажаданай здалася загадчыку гарАНА У. Праснякову прысутнасць карэспандэнта на сустрэчы з членамі прафкама? Ва ўльтыматыўнай форме «гаспадар» народнай адукацыі горада запатрабаваў, каб я пакінуў памяшканне школы. Вось такому «гаспадару», калі ён даходзіць да чыноўніцкай фанабэрыі, нічога не растлумачыш. Для яго нават закон аб друку—не закон.

І ўсё ж я выйшаў з будынка школы з лёгкай душой. Упэўнены: здаровы сэнс, дэмакратыя возьмуць сваё. Паглядзіце вакол—лёд крануўся. Не заўтра, дык паслязаўтра наша школа, нашы дарагія, але змучаныя чыноўніцкім прэсам настаўнікі, стануць урэшце вольна дыхаць. І прызначэнне дырэктараў стане сапраўды дэмакратычным. І веру, што пазбаўленыя часам сваіх непатрэбных грамадству й школе пасадаў чыноўнікі вымушаныя будуць прасіцца на радавую настаўніцкую працу. І далібог, яны тады змушаны будуць стаць перад сапраўдным настаўніцкім жыццём. Калі, канешне, іх далейшы лёс станоўча вырашаць настаўнікі, якімі яны прызвычаіліся камандаваць, нібы халопамі.

**А. БУКАЧОЎ.**

P.S. На той самай «нарадзе» 5 траўня, як паведамілі ў рэдакцыю настаўнікі, загадчык гарАНА В. Праснякоў сказаў, што ўсе педагогі пенсіённага ўзросту, у тым ліку і Л. Сухарукава, хутка будуць звольнены. З 1 ліпеня. Што гэта? Пагроза? Ці агонія чыноўніцкай улады?

*Тэатральнае жыццё*

## Сезон, багаты на ўспаміны

Завяршаецца чарговы тэатральны сезон. Для коласаўцаў ён быў як ніколі насычаным. Варта хаця б прыгадаць, шматлікія прэм'еры, «Тэатральны марафон», змену ўлады ...

І хоць набліжаецца лета, настрой у акцёраў пакуль не адпускны. Днямі мяркуецца апошняя прэм'ера сезона—«Цырк Шардам» паводле Данііла Хармса. Адразу ж пасля яе віцябляне адправяцца ў Менск на гастролі, якія пройдуць з 2 па 13 чэрвеня. Падчас іх Беларускі акадэмічны тэатр імя Я. Коласа пакажа «Рэвізора», «Шчаслівае здарэнне», «Залёты», «Касатку».

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**

## Ад «Хрыста...» да «Дзялка»

А ў нас у той час, калі коласаўцы будуць гасціць у сталіцы, пакажа свае работы Дзяржаўны рускі драматычны тэатр Беларусі. 2 і 7 чэрвеня віцябляне ўбачаць трагедыю «Хрыстос і Антыхрыст» паводле Д. Мяражкоўскага. 3-га і 8-га гледачоў чакае спектакль «Амфітрыён»—своеасаблівы калаж з інтымных таямніц жыцця багоў ды людзей па матывах старажытнагрэчаскага міфа й твораў Плаўта, Мальера, Клейста, Жыраду, Хакса. Толькі 4 чэрвеня тэатр сыграе камедыйнага «Дзялка» А. Талстога. На наступны дзень, а таксама 6 і 11 чэрвеня публіка затоіць дыханне, гледзячы дэтэктыў вядомага французскага драматурга М. Амара «Хто твой каханак, Жазефа?» 9 ды 12 на сцэне пойдзе «Адзіны нашчадак» Ж.-Ф. Рэньяра. 10 і ў апошні дзень гастроляў—13 чэрвеня—менчукі распавядуць неардынарную гісторыю кахання, якая пакладзена ў аснову вострасюжэтнай п'есы «Вар'ят і манашка» С. Віткевіча. Для дзяцей жа Рускі тэатр прапаноўвае казку-буф А. Осіпава «Жылі-былі дурні» 4, 8, 9, 10, 11 чэрвеня.

**Ю.С.**

## Наша «Лялька» была там

Беларускі тэатр «Лялька» вярнуўся з Міжнароднага фестываля тэатраў лялек, што ўжо другі раз праводзіўся ў Менску. У імпрэзе, якая доўжылася з 20 па 26 траўня, апроч лялечных труп Беларусі, удзельнічалі тэатры Украіны, Польшчы, Расіі, Чэхіі, Аўстрыі, Нямеччыны, Францыі, Фінляндыі, Турцыі, Італіі ды іншых краін.

Віцебская «Лялька» прадставіла на фестывалі адну з лепшых сваіх прац—спектакль «Папялушка» паводле вядомага твора Ш. Перо.

**М. ВАЛАЧОБНІК.**

## Рэпертуар Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа

**29 траўня** прэм'ера «Цырк Шардам» (на камернай сцэне).
**30 траўня** прэм'ера «Цырк Шардам» (на камернай сцэне).

Пачатак вечаровых спектакляў а 19 гадз.

Даведкі па тэл.: **36-06-80, 36-00-43.**



Якой ты будзеш, наша школа!

## А ў будучым сезоне—зноў прэм'еры

Аматары тэатра, мусіць, заўважылі, што заанансаваная ў мінулым нумары «Выбара» прэм'ера новай рэчы коласаўцаў «Паннaчка» не адбылася.

Прычыну гэтага здарэння працаўнікі мастацтва раскрыць нашым чытачам не пажадалі, але назвалі яго «надзвычайным».

Цяпер, як мяркуецца, глядач убачыць «Паннaчку» толькі ў наступным сезоне. Тады ж будуць паказаны і яшчэ дзве новыя работы, сярод якіх і «Кароль Лір», рэпетыцыі якой ужо пачаліся.

**М. МАРУДАЎ.**



Ірына Магучая. «Шэсце ў белым адзенні», 1992 г.

*У мясцовых філіях*

## У Менск. На з'езд

Прайшло чарговае пасяджэнне Віцебскай гарадской Рады Беларускага народнага фронту «Адраджэньне», адметнае тым, што падчас яго выбраны дэлегаты на трэці з'езд Фронту, 6 чалавек, з іх пяць сяброў і адзін прыхільнік БНФ, адправяцца на форум франтоўцаў напрыканцы тыдня.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**

*Мастацкія фільмы на рэшту тэлетыдня*

### Серада, 26 траўня

**Беларускае тэлебачанне**
8.25 і 21.35. «Мачаха».

**Канал «Астанкіна»**
8.25 і 18.00. «Проста Марыя».
11.20. «Крымінальны талент». 1-я серыя.

**Канал «Расія»**
11.05 і 19.25. «Санта-Барбара».
13.55. «Я крочу па Маскве».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
8.05. «Мая другая мама».
12.45. «Таямнічы вязень».
15.05. «Рыцар з Княж-гарадка».

### Чацвер, 27 траўня

**Беларускае тэлебачанне**
8.25 і 21.35. «Мачаха».

**Канал «Астанкіна»**
8.30 і 18.00. «Проста Марыя».
11.20. «Крымінальны талент». 2-я серыя.
21.20. «Агонія».

**Канал «Расія»**
11.05 і 19.25. «Санта-Барбара».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
12.40. «Пётр І». 1-я серыя.
20.55. «Мая другая мама».

### Пятніца, 28 траўня

**Беларускае тэлебачанне**
8.25. «Мачаха».
21.35. «Віла «Архідэя» (Югаславія, Вялікабрытанія).

**Канал «Астанкіна»**
20.55. «Прывіды ў спадчыну». 2-я серыя.

**Канал «Расія»**
11.05. «Санта-Барбара».
16.55. «Сасланы на планету Зямля». 12-я серыя.
19.25. «Ахвяра вайны».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
8.15. «Мая другая мама».
12.55. «Пётр І». 2-я серыя.
23.00. «Чатыры двойкі».

### Субота, 29 траўня

**Беларускае тэлебачанне**
8.25. «Віла «Архідэя» (Югаславія, Вялікабрытанія).
21.35. «Джынджэр і Фрэд».

**Канал «Астанкіна»**
12.30. «Пачатак».
18.35 і 20.40. «Апошнія дні Пампеі». 4-я і 5-я серыі.
0.15. «Кола агню» (ЗША).

**Канал «Расія»**
11.05. «Тытунёвы капітал».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
8.05. «Чатыры двойкі».
12.25. «Сем шчаслівых нот».
20.45. «Мая другая мама».

### Нядзеля, 30 траўня

**Беларускае тэлебачанне**
8.55. «Мачаха».
21.20. «Мадэмуазель Стрыптыз».

**Канал «Астанкіна»**
11.45. «Прыгоды Чорнага Прыгажуна».
18.50. «Кальцо».

**Канал «Расія»**
11.10. «Кацька—Папяровы Ранет».
22.30. «Сатана».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
16.10. «На берагах чароўных Нявы».

## Выдавецкая суполка «Полацкае ляда»

прапануе зборнікі вершаў з серыі «Паэзія новай генэрацыі»: **Юры Гумянюк** «Водар цела», **Алесь Аркуш** «Крылы ператворацца ў карэньні», **Славамір Адамовіч** «Зямля Ханаан».
Кошт аднаго зборніка пры паштовым замаўленьні 25 руб.
Адрас для замаўленьняў і грашовых пераказаў: **211440, Навапалацк—11, а/с 36, А. Козіку.**

## Адным радком

У Віцебску адбыўся ІІ Злёт юных эколагаў вобласці.

* * *

У абласным жа цэнтры прайшла Міжрэспубліканская канферэнцыя юных эканамістаў.

* * *

У верасні віцебскія «Поўдні» нарэшце «прыдбаюць» яшчэ адну школу.
Яна размесціцца ў былым будынку ПТВ радыётэхнічнага завода. Сярэдняя школа ўжо мае «імя»—№ 42.

**Н. КІЛДЗІНГ.**



## Конкурс палітдыялогаў

На конкурс палітдыялогаў (умовы гл. у № 13) прыйшлі першыя варыянты адказаў. Сёння мы друкуем адзін з іх. І чакаем новых!

Настаўніца гісторыі пытаецца ў вучня:
—Што пазітыўнага можа даць Беларусі ваенны саюз з Расеяй і Казахстанам?
—Беларусі—нічога карыснага, а асабіста мне—вельмі многа.
—Растлумач, што іменна?
—Я не пайду служыць у войска!
—Цікава, як табе гэтае ўдасца? Ты ж—выдатнік і спартсмен?
—А я вырашыў два гады да прызыву зусім не загараць.
—І што ад гэтага?
—Як гэта што?! Убачаць мяне на медкамісіі былыя палітрукі—скажуць: «Белы...»—і не возьмуць.




Заснавальнік
*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Валянцін АРЛОЎ
Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ
Васіль ІГНАЦЕНКА
Юры ЛАЎРЭНАЎ
Ларыса МІХНЕВІЧ
Міхась ПАЎЛАЎ
Уладзімір ПЛЕШЧАНКА
Леанід ТАМАРОВІЧ
Ігар ЦІШКІН

Мастак Р. Клікушын. Фотаздымкі М. Міхайлава.
Адрас рэдакцыі: 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
Тэл. 37-35-06, 37-28-44.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.

Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.

Пры перадруку спасылка на «Выбар» абавязковая.

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.

Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.

Выходзіць штотыднёва па сярэдах

Нумар падпісаны да друку 25.05.1993 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Цана 3 руб.**